№ 63 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 63 (259). Год III. Вільня, 13 жніўня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 12 жніўня.

**Заходні тэатр.**

Між Ізэр і Анкр адбіты наступленьні непрыяцеля. На поўнач ад Ліс мы адкінулі сільную англіцкую атаку. На полі бітвы непрыяцель вёў рана нараніцы заўзятые атакі на поўнач ад Сомм і між Сомм і Ліон, каторые былі адбіты найбольш агнём, а часьцю контратакамі. У бітве ля Ліон непрыяцель прабіўся на ўсход ад гэнага месца. Нашая контратака адкінула яго назад да паўночнай і ўсходняй мяжы гэтае вёскі. Заўзятые атакі між Ліон і Авр. На паўдняхад ад Шольн мы атакавалі непрыяцеля пры Галю. Наабапал дарогі Ам'ен-Руа непрыяцельскіе атацi адкінены. Між Авр і Уаз сільные атакі непрыяцеля былі да ночы. Яны зусім адкінены. Асабліва вялікіе страты французы мелі пры Гільлёлюа. Нашая пяхота і артылерыя растрэляла непрыяцеля перад нашымі лініямі.

Учора зьбіто 17 непрыяцельскіх самалётаў і 4 прывязные шары. Лейтнант Удэ дайшоў свае 49-е 50 і 51 і 52 пабеду.

У ліпню на нямецкіх фронтах зьбіто 518 непрыяцельскіх самалётаў і 36 прывязных шароў. Мы ўтрацілі 129 самалётаў і 63 прывязные шары.

---

АМСТЭРДАМ. Францускі генэральны консул Грэно, консул Назон і генэрал Лявэрн, галава францускай ваеннай місіі, як пішэ «Temps», арэштованы ў Маскве большэвікамі.

МАСКВА (П.Т.А.). 8.VIII. Пад Оршай нямецкую камісію дзеля правядзеньня разьдзельнай лініі абстрэлівалі ў часе работы. Досьледы паказалі, што стрэлы былі зроблены ворагамі савецкага ўраду, каб вызваць калатню між апошнімі і немцамі.

Пры Духаўніцкай, на заходзе ад Уралу, ворагі савецкага ўраду памыкаліся высадзіцца. У часе бітвы адзін параход затануў, і Духаўніцкую занялі войскі саюзьнікаў. На чэха-славацкім фронце савецкіе войскі занялі станцыю «Утка».

МАСКВА 11.VIII. Высадзіўшыеся ў Владывастоку англіцкіе ваенные ўласьці ўмаўляюць народу не завязываць зносін с пасланымі большэвікамі агітатара. Кожын грамадзянін, які тайна ці яўна будзе паддзержываць зносіны з большэвікамі, падлегае сьмерці.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Члены нямецкага пасольства ў Маскве прыбылі сюды с Пецярбурга.

БЭРЛІН. Нямецкі пасол у Маскве, Гэльфэріх паехаў у вялікую глаўную кватэру на некалькі дзён.

БЭРЛІН. Фінляндзкі ўрад адкрывае консульствы ў Кіеві і Адэсе. Фінляндзкі пасол на Украіне знаходзіцца ўжо ў дарозе.

У Рэполі, ў Карэліі, на вялікім народным сходзе пастаноўлено аднагалосна далучыцца да Фінляндыі. Дэпутацыі загадано завязаць зносіны с фінляндзкім урадам.

Фінляндзкіе параходы, арэштаваные ў сваім часе Нямеччынай, выпушчэны на волю.

БЭРЛІН Жніво па ўсей Нямеччыне йдзе поўным ходам. Авёс і ячмень блізка ўвесь зжаты. Пачаўся збор пшаніцы. Авёс шмат больш важкі, чым летась. Палі ўраз-жэ прыгатаўляюцца пад прэдвасеньні пасеў. Палі з варывам у добрым стане. Збор ураджаю, трэба спадзевацца, будзе йшчэ вялікшы, чым леташні. Шмат павялічыўся абшар зямлі, ужытай пад гародніну.

ГЭЛЬСІНГФОРС (В.Т.Б.) 10.VIII. На апошнім заседаньні сэнату разгледалі адоорэную камісией рэзалюцыю аб падгатоўцы выбару караля паводлуг § 38 старой конституцыі. Пасьля 4-гадзінных спорак рэспубліканскае прэдлажэньне адкінуць памянутую рэзалюцыю было адкінуто перэвагай 68 проці 33 галасоў,—значыць, больш за 2/3 галасаваўшых высказаліся за манарха. Самая рэзалюцыя прынята перэвагай 58 галасоў проці 44. У тую-ж ноч урад атрымаў асабливые паўнамоччы вясьці перэгаворы аб заняцьці пасаду. Спадзяюцца, што перэгаворы ў пачатку верасьня развіюцца гэтак, што можэ быць склікан надзвычайны сэйм дзеля аканчацельнага выбару караля.

БЭРЛІН (В.Т.Б.) 11.VIII. Падводные лодкі ізноў затапілі 4 параходы ёмкасьцю разам 11.000 тонн.

Між затопленымі ў апошніх днёх суднамі быў параход «Dardy» с 610.000 пудоў замарожэнага мяса.

КІЕУ (В.Т.Б.). 11VIII. Заслужэная забойцам фэльдмаршалка Ейхгорна кара сьмерці ўчора споўнена над ім.

КІЕУ. Аб кары сьмерці ўбіўцы фэльдмаршалка Ехгорна яшчэ наказываюць: 10 жніўня ўбіўца павешэны на адкрытым месцы блізка Луктанаўскае турмы ў 5 гадз. па палудні. Прысуд быў прачытаны нямецкім палявым судом. Зараз-жэ пасьля пацьвярджэньня прысуда ён быў споўнены.

ПЭКІН (Гавас). Кітайскі ўрад адмовіўся прыняць нованазначэнага Рапескага нунцыя Патрэлі.

ВІЛЬНЯ. Жалезнадарожная Дырэкцыя 5 апавешчае, што аб'яўленая (гл. кроніку гэтага нумэру «Гомана») перамена ў расписаньні руху поездаў мае сілу не с 15, а з 22 жніўня,—значыць да 22 мае сілу расписаньне, устаноўленае 15 мая.

---

*Вільня, 13 жніўня 1918.*

Варункі, у якіх адбываецца беларуская нацыянальная работа ў межах старой нямецкай окупацыі, рэзка розьняцца ад варункаў беларускага нацыянальнага жыцьця на ўсход ад берасьцейскай лініі. Пад той час, як у ўсходняй Беларусі наша нацыянальная работа абнімае ўсе галіны народнага жыцьця і мае ў сваей аснове будаваньне незалежнае беларускае дзержавы,—на заход ад берасьцейскай лініі, значыць, у беларускай Віленшчыне і Гродненшчыне для скорай і ўсестароннай нацыянальнай работы ваенные варункі не даюць ходу: яна абнімае толькі школьные справы і зьвязаные з імі выдавецкіе. Затое-ж мы ў межах гэтых спраў маглі да апошніх часоў пахваліцца перад нашымі закордоннымі братамі, беларускіе народные школы дайшлі ў нас даволі вялікай цыфры — 150 (вялікай, бо трэба памятаць, што ў мамэнт заняцьця нашага краю немцамі тут, наагул, ніякіх народных школ не было!), а побач с тым мы ў 2—3 гады здалелі стварыць школьные падручнікі, і хоць іх ня лішне багата, ды ўсё-ж яны ўжо даюць магчымасьць забаспечыць нашы пачатковые школы ўчэбнікамі ў нашай роднай мове.

Усходняя Беларусь у гэтым асталася ззаду за намі. Затое яна зрабіла вялікі крок упярод у арганізацыі школ вышэйшага тыпу. Так, тамака ёсьць дзьве беларускіе гімназіі (у Слуцку і Буцлаві), а цяпер мы стаём перад спаўненьнем вялізарнага праекту арганізацыі беларускага ўнівэрсытэту ў Менску.

Цяпер ужо нам трэба даганяць нашых усходніх братоў: калі падрахуем, сколькі дзяцей што-год канчаюць народные школы і сколькі іх магло-бы пайсьці ў школу вышэйшага тыпу, то лёгка зразумеем, што ўжо вялікая пара падумаць аб адкрыцьці беларускай гімназіі або прынамсі прогімназіі. Вучыцельскіх сіл на гэта зусім хваце, бо нашых людзей прыбывае ўсё болей і болей.

Трэба толькі больш энэргіі, і нестачу беларускай сярэдняй школы мы скора здалеем запоўніць.

---

## „Унутрэны фронт“.

Палажэньне, у якім апынуўся цяпер Беларускі народ, вымагае незвычайнага напружэньня ўсіх нашых творскіх сіл, каб дабыць сабе дзержаўную і культурна-нацыянальную незалежнасьць. Мала таго, што за спаўненьне нашых нацыянальных ідэалаў нам прыходзіцца бароцца на некалькіх фронтах: на маскоўскім, на польскім і інш.,—дык-жэ і між самымі беларусамі мы сустрэчаемся з элемэнтамі, якіе ня толькі ня хочуць прылажыць свае рукі да будаваньня незалежнай Беларусі, але і псуюць гэту работу.

Гаворачы аб нашым «унутрэным фронце» мы павінны разрозьніваць дваякіе элемэнты: адны, хоць косьць с косьці і кроў с крыві беларусы, ды праз уеўшуюся ў іх мозаг польшчыну або маскоўшчыну стараюцца ўходзіць у беларускіе нацыянальные арганізацыі і ў іх праводзіць польскіе або маскоўскіе палітычные і нацыянальные пляны; другіе, захопленые агульна-расейскім рэвалюцыйным рухам, вырэкаюцца сьвядома сваіх нацыянальных патрэб і дамаганьняў, быццам забываюцца, што ў паняцьці волі вельмі выдатнае месца занімае як-раз *воля нацыянальная*.

Паскольні скосмополітызаваны рэвалюцыянізм шкодны пры нашым сучасным палажэньні тым, што ён адбірае дзеля чыста рэвалюцыйнай работы многа нашых сіл, як раз у гэты мамэнт так патрэбных дзеля ,культурна-нацыанальнага творства,—пастолькі беларускіе элемэнты, працуючые «дзеля чужых багоў», шкодны ўдвая: адцягіваючы нашы сілы ад таго, што становіць у гэты мамэнт першую павіннасьць кожнага беларуса, яны ўносяць у самае нашае грамадзянства расклад, робяць работу, якая безумоўна заслужываець назваьня *нацыянальнае здрады*. Гэтак, мы бачым, як адны зусім сьвядома і плянова праводзяць апалячэньне беларускае мовы; другіе, крычучы на ўсіх крыжавых дарогах аб сваей любові да Беларусі, цішком прадаюць нашу Бацькаўшчыну паляком, даводзячы, быццам гэтага вымагае наша-ж карысьць; ізноў-жэ іншые, згаджаючыся на славах, што Беларусь павінна быць палітычна незалежнай, выступаюць проці ўселякай беларускай нацыянальнай работы, хаця аснову нашага дзержаўнага быту ў першы чарод становіць наша нацыянальная самабытнасьць, і з абмаскоўленьнем нашым счэзла-бы самая ідэя незалежнасьці Беларусі.

Вось-жэ, у той час, як мы змагаемся з нашымі дужэйшымі суседзямі за наш незалежны гасударственны быт, нам найбольш замінае гэты «ўнутрэны фронт». Кабжэ ён нам ня быў страшны, мы павінны злучыць у вадно ўсе нацыянальна-сьвядомые беларускіе сілы, павінны так цесна стаць у рады, каб ніякіе здраднікі з нашага-ж народу не здалелі нас раз'еднаць, не здалелі зрабіць вырвы ў нашых лініях, праз якую нашы ворагі маглі-бы дайсьці ажно да самага нашага сэрца і душы. У еднасьці — сіла. *Хто* гэту еднасьць разьбівае, той аслабляе сілу нашага адпору ўсім чужацкім напасьцям. І ўсім тым, хто ў салодкай форме шэпчэ нам на вуха аб карысьці для беларусаў «унутрэнай конкурэнцыі», хто паднімае брата проці брата рознымі баламутнымі абяцанкамі і

таму мы павінны цьвёрда і станоўча сказаць: рукі вон ад беларускае справы!

*І. Мелешка.*

## Расейскіе справы.

Чорные хмары зьбіраюцца над «Большэвізіей»: ідуць яны с поўначы, з усходу, с палудзеннага ўсходу. Англічане, французы, амэрыканцы, японцы с кітайцамі, чэха-славакі і, урэшці, расейскіе контр-рэвалюцыанеры паўкругам наступаюць на Маскву, заходзячы з далёкай далечыні. А большэвіцкі ўрад, каторы выпускае чуць-не што-дзень адозвы да народу с прызывам бараніцца ад чужынцаў і контррэвалюцыі, сам не мае сілы даць належны адпор няпрошэным гасьцём...

Здаецца, недалёк ужо той мамэнт, каторы павінен даць адказ на пытаньне аб будучыні большэвізму ў Расеі. Разьвязка набліжаецца вельмі шыбкімі крокамі. Якая-ж яна будзе?

Угледаючыся на ўтварыўшаеся ў Расеі палажэньне трудна судзіць большэвіком нешта вясёлае: для іх неўспадзеўкі можэ прыйсьці канец. Гэта кажуць усе, хто прыежджае да нас з Расеі. І гэта лёгка зразумець.

Сіла большэвікоў—у тых мнагамільённых народных масах, на каторых дзержыцца ўся ўласьць савецкага ўраду. Пакуль трэба было нішчыць, руйнаваць да самых асноў стары грамадзкі лад у Расеі, большэвікі мелі даволі сіл дзеля гэткай работы ў тых грамадах чэрні, якая заўсёды і ўсюды ахвотне гуртавалася да тых, хто паднімаў знамя бунту, знамя барацьбы с сытымі, багатымі. Але ў гэтым-жэ—слабасьць савецкай рэспублікі: бо масы ў Расеі яшчэ лішне цёмны, лішне дзікіе, каб мелі магчымасьць прылажыць руку да творскай работы над будовай новага ладу. А тут, каб усюды завясьці нейкі лад і папраўдзе ўпраўляць Расейскай дзержавай, каторая раскінулася на страшэньне вялікім абшары, патрэбныя тысячы, а дзесяткі і сотні тысяч людзей, здольных да спаўненьня гасударственых чыннасьцей. Трэба арганізаваць і будаваць нанова кожную галіну грамадзкага жыцьця,—будаваць на такіх асновах, якіх вымагае дух часу. І вось тут-то і прыходзіць беда: сьвядомых і палітычна чынных работніцкіх сіл далёка не хватае, і ня толькі па мястох, але і па вёсках запанавала чэрнь, у каторай растаялі сьвядомые ідэйные большэвікі. Скрозь паношыцца найчысьцейшая анархія: кожын «совдеп» (савет работніцкіх дэпутатаў) — гэта ні ад каго незалежная, зусім абасобленая арганізацыя, каторая ня вельмі ахвотне падчыняецца цэнтральнаму ўраду — гэтаму мозгу ўсяе рэвалюцыйнае работы. Дык цяпер, калі дзеля барацьбы с чужынцамі і сваімі контррэвалюцыанерамі патрэбна шырокае арганізованае выступленьне аружнага народу, які ўсе павінны сьлепа выпаўняць загады цэнтральнае ўласьці,—цяпер большэвіцкі ўрад дарэмна клічэ народ брацца за аружжэ: маскоўская мястовая чэрнь ня любіць выступаць на барацьбу з арганізованымі арміямі, а так недаўна пакінуўшые рады арміі селяне зусім не квапяцца ізноў ісьці пад кулі—на голад і ўселякіе невыгоды. Поўная нестача грамадзкага інстынкту, крайні індывідуалізм—вось асноўные рысы так доўга няволеных сваімжэ ўрадам расейскіх мас. Проці гэтага бязсільны Леніны і Троцкіе, і яны цяпер дарэмна напружаюць усе свае сілы, каб збудзіць грамадзкае пачуцьцё ў маскоўскім народзе і не пад палкай, як было пры царскім урадзе, а сьвядома выступіць на абарону здабычаў рэвалюцыі.

«Расейская маса не дасьпела да максымалістычнай рэвалюцыі!» —гэтак кажуць усе сьвядомые прэдстаўнікі пролетарыату, варочаючыеся да нас з Расеі. Дый іначэй быць не магло: цудаў цяпер не бывае, а толькі цудам можна было-бы вытлумачыць псыхолёгічны пераход паднявольных рабоў да сьвядомасьці вольных грамадзян вольнае бацькаўшчыны.

Маскоўскі народ не здалеў збудаваць *новай Расеі*. Затое-ж адбудоўваюць старую Расею — *чужынцы*...

**Г. Б.**

## У Вільні і ваколіцах.

× **Агульны сход Беларускага Т-ва пом. пац. ад в.** адбыўся ў нядзелю. Справаздачу дамо ў чародным нумэры «Гомана».

× **Прыезд Э. Будзькі.** Гэтымі днямі ў Вільню прыежджаў стары беларускі працаўнік, п. Эдвард Будзька, арганізатар беларускай гімназіі ў Будславе, Вялейскага пав. Перад вайной п. Будзька жыў некалькі гадоў у Вільні, дзе быў добра вядомы між беларускім грамадзянствам. З Вільні ён выехаў пры эвакуацыі места разам з установай, у каторай працаваў, і сьперша жыў у Пецярбурзі, дзе многа папрацаваў дзеля арганізацыі дзьвёх беларускіх газэт: «Сьветач» і «Дзянніца», а так сама ў агульна-беларускай грамадзкай рабоці. Пасьля перэбраўся ў родны Будслаў, ды тут заняўся культурнай работай, надумаўшы між іншым залажыць беларускую гімназію. Справа пайшла добра, і цяпер для гімназіі, у каторай навукі йдуць поўным ходам, будуецца свой уласны дом.

Віленскіе беларусы шчыра віталі старога таварыша працы.

× **Аб помач працай.** С кожным днём узрастае ў нас число беларусаў, каторые, вярнуўшыся з доўгай і прымусовай эміграцыі ў Расеі, шукаюць для сябе работы ў родным Краю. Да Беларускага Камітэту зьвертаецца аб помач у вышуканьні работы ўсё больш і больш людзей. Аднак, задача гэта—вельмі цяжкая: у ўстановах небеларускіх беларусаў прынімаюць толькі ў вельмі рэдкіх здарэньнях, наагул-жэ нашы людзі сустрэчаюцца с такім самым адказам, як у расейскіх часох: «для беларусаў месца нема!»

Для людзей, каторые маюць адпаведную падгатоўку, ёсьць выхад: гэта — заняць месца вучыцеля ў беларускіх народных школах, число каторых даходзіць ужо каля 150 і далей узрастае с кожным месяцам. Аднак, гэтага йшчэ вельмі мала.

Вось-жэ для тых, каму недаступна праца вучыцеля, патрэбна помач беларускага грамадзянства. Кожын беларус, каторы ведае аб якім-колечы месцы заробку, павінен ураз-жэ паведаміць Беларускі Камітэт, каторы ўжо накажэ аб гэтым патрабуючым.

Мы павінны памятаць, што як мы самі ня будзем памагаць нашым братом, дык ім ніхто не паможэ. А чым больш будзе між намі людзей, каторые маюць забаспечэны кусок хлеба, тым вялікшая будзе наша сіла ў родным Краю.

Беларускі Камітэт месьціцца пры Віленскай вуліцы № 33, кв. 1.

† **Павал Бэртгольд.** Варочаючыеся ўцекачы апаведаюць, што недаўна ў Алушце, ў Крыме, большэвікі ў нялюдзкі спосаб забілі б. прэзыдэнта Вільні, Бэртгольда. Назначэны самадзержаўным урадам, ён быў пакінуў сваё становішчэ ў 1905 гаду, праслужыўшы 15 гадоў. Паводлуг прафэсіі ён быў ваенным інжэнерам, будаваўшым Ковенскую крэпасьць.

× **На чыгунках.** Ваеннае ўпраўленьне чыгункамі апавешчае, што ад 15 жніўня скоры поезд з Бэрліна ў Вільню будзе даходзіць аж да Маладэчны. Апрыч таго будзе пераменен увесь плян руху на чыгунках у межах новае окупацыі.

× **Данные аб кватэрах.** Stadthauptmann апавешчае, што для дамаўласьнікаў або іх заступнікаў з вуліц, нямецкіе імёны каторых пачынаюцца літэрамі A, B, C, D, E, F, G, H, I, тэрмін падачы статыстычных данных аб іх дамох, кватэрах і жыхарах прадоўжэн да 14 жніўня. Хто да гэтага дня не явіцца, той будзе прыведзен паліцыей і апрыч таго пакаран.

× **Пагода ў ліпні.** Наагул, ліпень можна лічыць добрым месяцам. Сярэдняя тэмпэратура за ліпень была 17,3°. У 7 гадз. нараніцы яна даходзіць 16,6° проці леташняй 15,0°; у 2 гадз. папалудні +20,5° проці леташняй 19,2°; у 9 гадз. вечара 16,5° проці 16,1°. Найвышэйшая тэмпэратура за ўвесь месяц была 18-га у 4 гадз. паабедзі: 29,0°. Самы гарачы дзень — 10 с сярэдняй тэмпэратурай 21,8°. Найніжэйшая тэмпэратура – 8 у 3 гадз. на раніцы: +8,8°. Гэта быў і самы халодны дзень за ўвесь месяц с сярэдняй тэмпэратурай + 14,9°. Сем дзён мело найвышэйшую тэмпэратуру 25,0°. Пятнаццаць дзён мелі водных асадкаў больш за 0,1 мм. Найбольш мокры дзень быў 29 з 20,4 мм. водных асадкаў, за ім ідзе 1 ліпня с 13,3 мм. Усяго за месяц водных асадкаў было на 96,4 мм. Сем дзён было з навальніцамі чатыры — с туманамі.

Дзеля росту збожжа пагода ў мінулым ліпні была вельмі добрая. Горшая яна была для сена і бульбы.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 8—9 | + 23,8° | + 12,0° |
| 9—10 | + 22,9° | + 13,9° |
| 10—11 | + 18,7° | + 14,1° |
| 11—12 | + 22,9° | + 11,0° |

## З усяго Краю.

**З Менскага жыцьця.**

1 верасьня 1918 г. у Менску адкрываюцца дзевяцімесячные курсы дзеля падгатоўкі беларускіх вучыцялёў. Глаўная задача курсаў—падгатаваць сьцяг народных вучыцялёў, якіе маглі-бы выкладаць усе навукі ў народных школах у роднай мове вучняў,—зна-

*Францішк Олехновіч.*

## На Антокалі.

П'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман" № 62).

**З'ява 8.**

ТЫЕ-Ж, ВІНЦЭНТ, МІХАЛІНА, ЗОСЬКА, БАРБАРА

і іншые асобы с першага акту.

(Усе седаюць навакол столікаў).

ХОР (пяе):

Гэй, хутчэй давайце чаркі! —
Трэба піць!
Бо лягчэй на сьвеце жыці,
Калі будзем трохі піці.
Трэба піць, трэба піць
Трэба, трэба, трэба піць, ) біс
Каб ляпей было нам жыць. )

РАФАЛ (солё).

Якжэ-ж маецесь паночкі
Мілые?
Загуляйце тут да ночкі,
Раней не ідзеце прочкі.
Кажэце-ж мне: чаго вам даць?

ХОР.

Перш-на-перш нам гарэлкі дай, ) біс
Пасля штось з'есьці цягні тут! )

РАФАЛ (солё).

Есьць тут качкі і курчукі;
Парсюк тож.
Кухар мой ўсё без навукі
Зробіць закасаўшы рукі.
Кажэце-ж мне: чаго-ж вам даць?

ХОР.

Шкада нам часу, гаспадару, ) біс
Што ў кухні ёсьць, цягні сюды! )

РАФАЛ (солё).

Мае вы рады паслухайце —
Зрабеце так:
Перш-на-перш чаркі выпівайце
Ды с сухім горлам не сьпевайце!
Міхалка! гэй! бяжы хутчэй!

ХОР.

Хутчэй давай гарэлкі нам, ) біс
Чаго стаіш, разінуў рот. )

РАФАЛ (да Сьліжыкаў).

Дык чаго-ж вам даць, панства?

ВІНЦЭНТ.

Трэба чагосьці выпіць, закусіць (да жонкі). Як думаеш, Міхця?

МІХАЛІНА.

Варта ўжо падумаць аб абедзі, дамоў на абед ня вернемся.

ВІНЦЭНТ.

Праўду кажэш.

РАФАЛ.

Абед будзе праз поў гадзіны.

МІХАЛІНА.

А, мо' пайсьці цяпер пахадзіць па лесэ? Бо так прыемна сягоньня на сьвежым паветры.

БАРБАРА.

Вось сама кажэш... а не хацела ехаць!

МІХАЛІНА.

Не, я нічога проці ня мела, толькі я хацела каб і Ігнат ехаў, бо гэтак не выпадае ..

ВІНЦЭНТ.

Ен прыедзе. Язэп-жэ астаўся і скажэ яму што мы тутака.

МІХАЛІНА

Ну, дык, пакуль будзе абед, пойдзем у лес!

БАРБАРА.

Пойдзем!... (Ідуць за платок на лева).

**З'ява 9.**

ТЫЕ-Ж без ВІНЦЭНТАГА, МІХАЛІНЫ, БАРБАРЫ і ЗОСЬКІ.

МАЦЕІХА.

(сядзіць ля стала с кумамі).

Ведаеце, хто гэта?

І КУМА.

Не! хто?

ІІ КУМА.

Хто? хто?

МАЦЕІХА.

А вось гэтые, што пайшлі цяпер. Гэта Сьліжыкі з Антокаля, тые, што выдаюць сваю дачку за чыноўніка, каторы дастаў мільёны з Амэрыкі. Якжэ-ж ня ведаць! Я па

